КНІГА НОША
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
№ 32
чэрвень, 2015
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

## Анатоль ВЯРЦІНСКІ:

# «Паэзія – нешта ўсё ж загадкавае...»

**– Шаноўны Анатоль Ільіч, мінулы год быў багаты на арыгінальныя і цікавыя выданні, пра якія, дарэчы, мы пісалі ў «Кніганошы». Якія кнігі вам найбольш запомніліся? На якія параіце звярнуць увагу нашым чытачам і пашукаць у кнігарнях, бібліятэках?**

– Згодны, што мінулы год быў багаты на цікавыя і розныя ў жанрава-тэматычных адносінах выданні, што наш, так бы мовіць, кніжны рынак значна папоўніўся. Найперш запомніліся: новае, прымеркаванае да 100-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны выданне дакументальна-аўтабіяграфічнага твора Максіма Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне» (не толькі з цікавасцю перачытаў, але і выступіў у друку з эсэ «Сто гадоў таму»); чарговы, 10-ты том Поўнага збору твораў Васіля Быкава (публіцыстыка); зборнік аповесцяў Віктара Казько «Час збіраць косці»; кніга эсэ-сведчанняў Паўла Севярынца «Беларуская глыбіня»; раман Алеся Усені «Грэх»; гісторыка-дакументальныя даследаванні Анатоля Трафімчыка «1939 год і Беларусь: забытая вайна» і Уладзіміра Дарагужа «Курапаты Чэрвеньшчыны» (выдадзеная ў Ігумене). І яшчэ трапілася на вочы і выклікала жаданне



напісаць водгук кніга дзённікавых запісаў Галіны Твarановіч «Пайсці, каб вярнуцца», выдадзеная ўжо па той бок Буга, у серыі Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» (Беласток, Польшча). Гэта з прозы. Мастацкай і дакументальнай. Што тычыцца паэзіі, то раіў бы звярнуць увагу на «Эпіграмы» Ніла Гілевіча, кнігу «Раннія вершы» Таццяны Сапач (факсімільнае выданне), другі паэтычны зборнік Насты Кудасавай «Рыбы».

**– Вы столькі гадоў ствараеце вершы. Паэзія для Вас яшчэ таямніца? Якія адкрыцці чакаюць Вас у краіне паэзіі?**

*(Працяг на стар. 7)* ➲

**Даведка «Кніганошы»:**

**Анатоль Вярцінскі – паэт, драматург, публіцыст, крытык, перакладчык. Аўтар кніг «Песня пра хлеб» (1962), «Тры цішыні» (1966), «Чалавечы знак» (1968), «Час першых зорак» (1976), «Высокае неба ідэала» (1980), «Дзякуй, вялікі дзякуй» (1983), «Нью-Йоркская сірэна» (1987), «Жанчына. Мужчына. Каханне...» (2003), «Жыцьмем. Вершы і паэмы» (2012) і інш. Нарадзіўся ў 1931 г. у вёсцы Дзямешкава Лепельскага раёна на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Гілевіч Ніл. У віры быцця: новая кніга эсэістыкі. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 184 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 60).**

У новую кнігу эсэістыкі Народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча ўвайшлі запісы розных гадоў, кожны з якіх прасякнуты бязмежным болем за лёс роднай мовы, культуры, літаратуры і разам з тым надзеяй, што праз усе выпрабаванні ды нягоды мы дойдзем... дойдзем мы да той Беларусі, дзеля якой столькі выдатных сыноў і дачок ахвяравалі сабой.




**Турбіна Люба. Поезд «Минск-Москва» = Цягнік «Мінск-Масква»: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 92 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 61).**

Новая кніга Любы Турбіной (жыве і працуе ў Маскве, РФ), выдатнай паэткі, крытыка, празаіка, перакладчыцы, нястомнай прапагандысткі беларускай літаратуры, уключае цыкл зробленых рознымі аўтарамі перакладаў на беларускую мову яе тонкіх лірычных і глыбокіх філасафічных вершаў.




**Русецкая Наталля. Каштаны ў кішэнях: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 144 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 15).**

Другую кнігу вершаў Наталлі Русецкай склалі творы, напісаныя ў прасторы паміж Мінскам і Люблінам. Дарогі, ад'езды і вяртанні, межы паміж рознымі краінамі – тыя матывы, што часта можна сустрэць у паэтычным зборніку. Матывы частыя, але не галоўныя. Самае важнае, як падаецца, у кнізе «Каштаны ў кішэнях» – гэта пошук гераіняй сябе, свайго шчаслівага лёсу, свайго кахання, гэта радасць мацярынства, гэта ўспаміны часоў юнацтва і ўрокі сталасці. Гэта вера ў сваю будучыню.




**Гарбузік: літаратурна-забаўляльны дзіцячы альманах. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 30 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»).**

Альманах «Гарбузік» прапануе найлепшы спосаб прабавіць вольны час для дапытлівых дзетак, а таксама іхных неабыякавых бацькоў і выхавальнікаў. У зборнік уваходзяць матэрыялы навучальнага і забаўляльнага характару для дзяцей: вершы, казкі, вясёлыя задачы, самаробкі. Для сямейнага чытання.




**Шэін Аляксей. Сем камянёў: раман. – Мінск: Пазітыў-цэнтр, 2015. – 416 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 8).**

Таямніцу Сямі Камянёў можа раскрыць толькі адзін – той, каго старажытныя летапісы называюць Дастойным. Хлопец Ясь, які апынуўся ў дзівоснай краіне Эферыі, спрабуе разгадаць схаваную ў вяках загадку крышталяў, каб выратаваць жыццё сваёй сяброўкі і вызваліць Эферыю ад прыгнёту злога самазванца.




**Лейка Кандрат. Пан Трудоўскі: з літаратурнай спадчыны. Уклад., прадм., камент. С. Чыгрына. – Мінск : Кнігазбор, 2015. – 128 с.**

Упершыню ў гісторыі беларускай літаратуры пад адну вокладку сабраны адшуканыя ў архівах і бібліятэках асобныя творы пачынальніка беларускай літаратуры, аўтара «Нашай нівы» ў 1911–1921 гадах – паэта, празаіка і драматурга Кандрата Лейкі (1860–1921).




**Якубоўская Святлана. Палітра лёсу: зборнік гумарыстычных апавяданняў і вершаў. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 84 с.**

У зборніку змешчаны творы, напісаныя ў апошнія гады і апублікаваныя ў рэспубліканскім і мясцовым друку. Літаратурныя вобразы грунтуюцца на беларускіх народных эпітэтах і параўнаннях, жывых гаворках людзей правінцыйных гарадоў і вёсак Віцебшчыны. Пры адлюстраванні сваіх асабістых пачуццяў да Бога, Радзімы, родных і блізкіх людзей аўтар шырока выкарыстоўвае рэальныя выпадкі з уласнага жыцця.




**Гарбачоў Мікола. Ліхалецце і стварэнне: кніга прозы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 160 с.**

У кнізе змешчаны краязнаўчыя нататкі пра гісторыю і прыродныя асаблівасці роднага краю, асабістыя ўражанні аўтара ад сустрэчаў з цікавымі людзьмі. Вялікая ўвага надаецца адлюстраванню падзей Вялікай Айчыннай вайны і стваральнага будаўніцтва ў пасляваенны час, пошуку шляхоў вырашэння праблемаў сучаснага жыцця, знаходжання кожным чалавекам свайго месца ў ходзе змагання за свабоду і незалежнасць Радзімы.




**Бахарэвіч Альгерд. Дзеці Аліндаркі: раман. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 256 с.**

Героі рамана Альгерда Бахарэвіча – беларускамоўныя дзеці, пацыенты загадкавай установы пад назваю Лагер. Як сучасныя Гензэль і Грэтэль, яны трапляюць у цёмны лес, дзе іх чакаюць зусім не дзіцячыя прыгоды. Казка, сатыра, антыўтопія – кнігу можна аднесці да кожнага з гэтых жанраў, але яна ўсё роўна застаецца кнігай пра нас, тых, хто жыве тут і цяпер.




**Сіўчыкаў Уладзімір. Уладзевы гісторыі. – Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 224 с.: іл.**

Кнігу прозы Уладзіміра Сіўчыкава склалі фрывольныя і дасціпныя тэксты, іранічна-займальныя і лёгка чытэльныя жыццёвыя показкі, а часам і трагікамічныя гісторыі ды фацэцыі.




**Глобус Адам. Гісторыі пра Мінск і ваколіцы. – Вільня: Логвінаў, 2015. – 224 с.**

Новую кнігу Адама Глобуса складаюць гісторыі, дзеянне якіх адбываецца ў сталічным і беларускім Мінску. Героі кнігі надзвычайныя і, можна сказаць без усялякага перабольшвання, казачныя. Глобусаўскія «Гісторыі пра Мінск і яго ваколіцы» маюць чатыры часткі: пра людзей, пра рэчы і з'явы, пра горад і пра жывёл. Кожная частка напоўненая кароткімі, але вельмі насычанымі тэкстамі. Сюжэты разгортваюцца імкліва, а заканчваюцца зазвычай самым неверагодным чынам. Ёсць яшчэ адна рыса ў прозе Адама Глобуса, пра якую варта папярэдзіць чытача, – гумар. Часам ён жорсткі і чорны, месцамі набліжаецца да лёгкай іроніі, а то і даходзіць да мяжы з бязлітасным сарказмам. Галоўнае, што «Гісторыі пра Мінск і яго ваколіцы» – кніга вясёлая і займальная.




**Календа Сяргей. Усё ўлічана. All inclusive. – Вільня: Logvino literatūros namai, 2015. – 190 с.**

Перад вамі кніга, створаная за кошт доўгіх назіранняў і даследаванняў разнастайнага гатэльнага жыцця сталіцы. Першая частка «Кантынэнтальны сняданак» пабачыла свету 2012-ым, але падалася аўтару няскончанай, і цяпер, калі мінула два гады і з'явілася другая частка «Шведскі стол» можна лічыць, што тэма гатэлю ў беларускай літаратуры агучана, і ўлічана ўсё, альбо амаль усё, бо да канца ніводная гісторыя ў гэтым свеце яшчэ не была напісанаю. Перад вамі сабрана як мага болей назіранняў і думак пра гатэль, пра яго жыхароў, працаўнікоў і дырэктароў. Гэта своеасаблівы вопыт творчай працы з будзёнаю рэальнасцю, калі героі становяцца больш эмацыйнымі, большымі вар'ятамі і большымі рамантыкамі, бо па-іншаму кнігі не пішуцца.



**Жадан Сяргій. Украінскія авіяліініі: вершы. Пер. з укр. мовы А. Хадановіча [і інш.]. – Тэрнопаль: Крок, 2015. – 266 с.**

У выданні змешчаныя вершы з кніг «Жыццё Марыі» «Агнястрэльныя і нажавыя», «Лесбійкі», «Эфіопія», «Марадона», «УССР», «Гісторыя культуры пачатку стагоддзя», «Балады пра вайну і адбудову», вершы, што не ўвайшлі ў кнігу «Балады пра вайну і адбудову». Завяршае кнігу раздзел «Адзінаццаць сяброў Жадана: бонус-анталогія».




**Адамс Дуглас. Аўтаспынам па Галактыцы. Пер. з ангельск. П. Касцюкевіча. – Вільня: Логвінаў, 2015. – 224 с.**

Муніцыпальныя службы намагаюцца зруйнаваць твой дом, каб пабудаваць на яго месцы новы аўтамабільны праезд, а галактычныя камунальнікі, пракладаючы міжзоркавую трасу, у сваю чаргу, мерацца ўчыніць тое самае з тваёй планетай. Самая пара ўцякаць з роднай Зямелькі! Увазе чытача прапануецца сусветна вядомы раман брытанскага пісьменніка і сцэнарыста Дугласа Адамса (1952–2001). «Аўтаспынам па Галактыцы» – адна з вяршыняў жанра іранічнай фантастыкі.




**Брэжна Ірэна. Найлепшы з усіх светаў: раман. Пер. з ням. Л. Касмач. – Вільня: Логвінаў, 2015. – 126 с.**

У мазаічным, шмат у чым аўтабіяграфічным, рамане «Найлепшы з усіх светаў» швейцарская пісьменніца Ірэна Брэжна (нар. у 1950 г. у Браціславе) аднаўляе грамадскую атмасферу Славакіі 1950-х гадоў і фантазійны час дзяцінства, поўны вялікіх пачуццяў і ўчынкаў.




**Лыч Генадзь. Повязь часоў: успаміны. – Санкт-Пецярбург: «Неўскі прастор», 2014. – 388 с.: іл.**

У кнізе адлюстраваны асноўныя старонкі з жыцця аўтара, якія ў найбольшай меры паўплывалі на фармаванне ягонага характару, жыццёвы выбар і псіхалогію паводзінаў. Паказаны найважнейшыя вехі на яго жыццёвым шляху да навуковага Алімпа. Падрабязна распавядаецца пра падзеі ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі падчас гарбачоўскай перабудовы і пераходу да рынку. Пры гэтым асаблівая ўвага надаецца радыкальнаму рэфармаванню акадэмічнай установы, яго магчлівым негатыўным наступствам, а таксама супярэчнасцям, якія ўзніклі ў сувязі з гэтым у навуковым калектыве Акадэміі.

# ...За непрыдуманую літаратуру

**22 красавіка ўпершыню адбылося ўганараванне лаўрэатаў прэміі ў галіне непрыдуманай літаратуры імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў. Узнагароды атрымалі кнігі нонфікшн Андрэя Федарэнкі, Генадзя Кісялёва і Сяргея Дубаўца.**


Сяргей ДУБАВЕЦ.

Сёлета спаўняецца 125 гадоў з дня нараджэння дзеяча беларускай эміграцыі Аляксандра Стагановіча і 20 гадоў з дня смерці яго жонкі Марыі. Іх дачка, мастачка Тамара Стагановіч-Кольба, якая жыве ў Нью-Ёрку, у памяць пра бацькоў ініцыявала стварэнне ў Беларусі першай літаратурнай прэміі, прысвечанай дакументальным, мемуарным і публіцыстычным жанрам.

Арганізатары прэміі – Беларускі інстытут навукі і мастацтва, ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», МГА «Згуртаванне беларусаў свету Бацькаўшчына», выдавецтва «Лімарыус». Партнёрам выступіла кавярня Netto, дзе адбылася ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання.

– З’яўленне прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў, першай літаратурнай прэміі ў галіне нон-фікшн – знакавая падзея ў культурніцкім полі Беларусі. Доўгі час гэтая галіна заставалася па-за пільнай увагай чытацкай супольнасці, звернутай традыцыйна да мастацкай літаратуры. Важна тое, што прэмія Стагановічаў з’яўляецца грамадскай ініцыятывай, запачаткаванай менавіта беларусамі замежжа. Такім чынам, мы імкнемся паяднаць нашых суайчыннікаў не залежна ад таго, дзе яны знаходзяцца, у адзінай гістарычна-культурніцкай каштоўнаснай сістэме, – зазначыла Старшыня Рады МГА «Згуртаванне беларусаў свету Бацькаўшчына» Ніна Шыдлоўская.

Як распавяла архівістка, даследчыца беларускай эміграцыі, кіраўніца секцыі нон-фікшн пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў Наталля Гардзіенка, якая ўзяла на сябе асноўны цяжар у арганізацыі прэміі, цягам дзевяці месяцаў аўтарытэтнае журы, куды ўвайшлі літаратуразнаўцы, грамадскія дзеячы, пісьменнікі, выдаўцы, разглядала пададзеныя на конкурс кнігі.

Колькасць і якасць выданняў засведчылі пра актуальнасць непрыдуманай літаратуры: біяграфіі, мемуары, успаміны, дзённікі, эпісталярная спадчына, падарожныя нататкі, дакументальная проза, гуманітарныя даследаванні – усё гэта шырока адлюстроўвае жыццё беларусаў як на радзіме, так і за яе межамі.

– Слова «нон-фікшн» новае для нас, папулярнае і моднае, але сама па сабе непрыдуманая літаратура – дакументальная, навуковая, публіцыстычная – існуе даўно і, магчыма, доўгі час была недаацэненай. Нядаўна пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» была створана адпаведная секцыя, якую ўзначаліла Наталля Гардзіенка. З’яўленне прэміі імя Стагановічаў – наступны крок да сцвярджэння і далейшага развіцця гэтага віду літаратуры ў Беларусі, – лічыць Старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыс Пятровіч.

Сябры журы абвесцілі сёлетніх лаўрэатаў прэміі. Трэцяе месца аддадзена Андрэю Федарэнку за кнігу «Сечка» (Мінск: Галіяфы, 2012), другое – Генадзю Кісялёву (пасмяротна) за «Смак беларушчыны» (Мінск: Лімарыус, 2013).

Першае месца ў першай прэміі за непрыдуманую літаратуру атрымаў Сяргей Дубавец з выданнем «Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду» (Радыё Свабода, 2012). Цырымонія завяршылася музычнай імправізацыяй Паўла Аракеляна і Аляксея Крышталя.

**Тэкст і фота: Віка Трэнас, для lit-bel.org**


Аліна ФЕДАРЭНКА, Марына ШЫБКО і Валер ГЕРАСІМАЎ.


Ніна ШЫДЛОЎСКАЯ.




**Шабовіч Святаслаў. З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў: гісторыя аднаго падарожжа. Пер. з англ. В. Кавалёвай; прадм., камент. Н. Гардзіенкі. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 260 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 24).**

Кніга Святаслава Шабовіча «Ад фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў: гісторыя аднаго падарожжа» (24-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») уяўляе сабой успаміны беларускага эмігранта, што падчас Другой сусветнай вайны страціў бацькоў і ў дванаццацігадовым узросце пакінуў Беларусь. Аўтар распавядае пра беларускае дзяцінства, туляннi па паваеннай Германіі, выезд у ЗША і ўладкаванне ў новай краіне. Успаміны адлюстроўваюць погляд на падзеі беларускай гісторыі і эміграцыі прадстаўніка пакалення Ды-Пі, на станаўленне светапогляду якога значны ўплыў зрабіла жыццё ў лагерах для перамешчаных асобаў.




**Ненадавец Алесь. Тэадор Нарбут: Зачараваны старажытнай Літвой. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Тэадор Нарбут (1784–1864) – выдатны краязнаўца, археолаг, гісторык і літаратар, які пакінуў нашчадкам найбагацейшую творчую спадчыну. Ён аўтар дзевяцітомнай «Старажытнай гісторыі літоўскага народа» (апісаны падзеі да 1569 г.), а таксама шэрагу фальклорна-этнаграфічных даследаванняў.




**Шахоўская Святлана. Іван Насовіч: Збіральнік народнага слова. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»)**

Іван Насовіч (1788–1877) – славуты мовазнавец, этнограф і фальклярыст, пачынальнік беларускай лексікаграфіі. Склаў першы гістарычны слоўнік беларускай мовы (1867 г.), першы тлумачальна-перакладны «Словарь белорусского наречия» (1870 г.), пяць зборнікаў беларускага фальклору. Аўтар шматлікіх артыкулаў па фальклоры і этнаграфіі.




**Віцьбіч Юрка. Наша спадчына прамаўляе. – Мінск: Харвест, 2015. – 272 с.: іл.**

Гэтая кніга ўяўляе сабою цыкл нарысаў, прысвечаных помнікам архітэктуры і культуры старой Беларусі. Аўтар напісаў іх у 1969–1970 гады і агучыў у перадачах беларускай рэдакцыі радыё «Свабода». Лейтматыў развагаў Віцьбіча – асуджэнне свядомай мэтанакіраванай палітыкі «беларускага аддзела КПСС» па знішчэнні старажытных святыняў.

Камуністы жадалі пазбавіць усе народы СССР гістарычнай памяці, ператварыць іх у дэнацыяналізаваны статак бараноў («новую гістарычную агульнасць людзей – савецкі народ»). Сябе ж яны ўяўлялі пастухамі гэтага статку на вечныя часы. Не выйшла. Нацыяналізм апынуўся мацнейшым за камунізм. І цяпер мы перажываем вяртанне да сваіх вытокаў. Таму цікава параўнаць тое, што было ўсяго 40 гадоў назад з тым, што ёсць цяпер.




**Міхалюк Дарота. Беларуская Народная Рэспубліка ў 1918–1920 гг. Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. Навуковы рэдактар Станіслаў Рудовіч; Пераклад з польскай мовы Алесь Пілецкі. – Смаленск: Інбелкульт, 2015. – 496 с. [16] с.**

У манаграфіі разглядаюцца спробы здабыцця беларусамі ўласнай дзяржаўнасці пасля Першай сусветнай вайны. Яе аўтар намагалася як мага паўней паказаць нараджэнне і развіццё беларускай дзяржаўніцкай ідэі, а таксама дзейнасць, якая прывяла да стварэння і абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. У працы сярод іншага прасочваецца развіццё беларускай дзяржаўніцкай ідэі, утварэнне розных палітычных стратэгій і саюзаў. Храналагічна кніга даведзеная да падзення ўрада Антона Луцкевіча ў лютым 1920 г., бо менавіта ў той момант фактычна разваліўся беларускі незалежніцкі лагер, а ўрад БНР страціў здольнасць дзейнічаць.




**Сліж Наталля. Шлюбныя і пазашлюбныя стасункі шляхты Вялікага Княства Літоўскага ў XVI–XVII стст. – Смаленск: Інбелкулт, 2015. – 672 с.**

Кніга прысвечаная шлюбным і пазашлюбным адносінам шляхты Вялікага Княства Літоўскага ў XVI–XVII стст. Разгледжанае ўнармаванне інстытута шлюбу ў заканадаўстве. Надаецца ўвага выкананню заканадаўчых нормаў у судовай практыцы і прыватна-прававых дакументах. Асобна прадстаўленае выпасажэнне шляхцянак і наданне ім вена. Даследаваны ўплыў праваслаўя, уніяцтва, каталіцызму і пратэстантызму на шлюбныя стасункі шляхты. Рэканструяваны шляхецкі абрад вяселля. Прадстаўленыя асаблівасці скасавання шлюбу ў свецкіх і духоўных судах. Кніга суправаджаецца дадаткамі і ілюстрацыямі.




**Дарагуж Уладзімір. Курапаты Чэрвеньшчыны. – Ігумень, 2014. – 52 с.**

Масавыя рэпрэсіі 30–40-х гадоў XX стагоддзя – адна з драматычных старонак нашай гісторыі. Чэрвеньшчына, на жаль, не стала выключэннем з пераліку шматлікіх мясцінаў, дзе выконваліся смяротныя прысуды. Пад вокладкай гэтага выдання сабраны вынікі шматгадовай даследчай працы аўтара па ўказанай тэме. Выданне будзе карысным усім, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю.

# ■ НАВУКА/ПУБЛІЦЫСТЫКА/ДАВЕДНІКІ




**Лапацін Генадзь. Варвара Грэцкая як з’ява беларускай народнай культуры. – Гомель: Барк, 2015. – 248 с.**

Супрацоўнік Веткаўскага музея стараабрадніцтва і беларускіх традыцыяў імя Ф.Р. Шклярава Генадзь Лапацін правёў шмат сустрэчаў з Грэцкай Варварай Аляксандраўнай, 1925 года нараджэння, ураджэнкай пасёлка Амяльное Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці, і занатаваў ад яе вялікую колькасць тэкстаў традыцыйнай культуры, фактычна ўвесь фальклорна-этнаграфічны комплекс населенага пункта.

Гэтая жанчына – унікальны носьбіт народнай культуры. Яе бачанне і разуменне свету, веданне традыцыяў, звычаяў, абрадаў, павер’яў, песняў уражваюць і захапляюць. У яе аповедах, слушных меркаваннях, заўвагах і роздумах сапраўды адлюстравана душа народа, яго калектыўная памяць.

Публікацыя такога роду, дзе была б пададзена «карціна свету» адной асобы, прытым неардынарнай і таленавітай, – першая ў беларускай фалькларыстыцы.

І ўсё гэтае багацце – цудоўны падарунак Варвары Аляксандраўны і аўтара-ўкладальніка нам, беларусам.

У выданні захаваны ўласна дыялектныя асаблівасці маўлення Варвары Грэцкай.




**Краўцэвіч Аляксандр. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага (1248–1377 гг.). – Уроцлаў, 2015. – 304 с. – («Гарадзенская Бібліятэка»).**

Першая частка кнігі змяшчае першыя этапы гісторыі Вялікага Княства Літоўскага (1248–1341 г.: стварэнне дзяржавы, змаганне за выжыванне, пачатак тэрытарыяльнага росту), якія падаюцца ў еўрапейскім і беларускім гістарычным кантэксце. Другая ж частка прысвячаецца гаспадаранню дуумвірату Альгерда і Кейстута Гедымінавічаў. Тэкст разлічаны не толькі на гісторыкаў, але і на настаўнікаў, студэнтаў і ўсіх аматараў гісторыі.

Калі агулам ацэньваць гаспадаранне ў Вялікім Княстве Літоўскім дуумвірату Альгерда і Кейстута Гедымінавічаў, бачым суцэльныя поспехі, якія толькі зрэдчас перарываюцца тактычнымі паразамі. Альгерд і Кейстут амаль цалкам закончылі аб’яднанне беларускіх земляў (за выключэннем часткі Смаленшчыны), далучылі да сваёй дзяржавы большасць Украіны і некаторыя землі Паўночна-Усходняй Русі. Адсюль вынікае лагічная выснова пра паспяховае і пераможнае кіраванне цягам доўгага перыяду тэрытарыяльнага росту ВКЛ (1316–1422 гг.). Але калі прыгледзецца бліжэй ды прасачыць ходу падзеяў год за годам, крок з крокам, дык становіцца відавочным, што гэтыя поспехі дасягаліся неймавернымі высілкамі, дзяржава пастаянна балансавала на мяжы перамогі і паразы, усё было крохка і няпэўна, шмат залежала ад зменлівых знешніх абставінаў і ад асабістых якасцяў манархаў. І так было не толькі ў Вялікім Княстве, але і ва ўсёй сярэднявечнай Еўропе.




**Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі. Пад рэд. д-ра гіст. н. А. Смаленчука. – Мінск: Зміцер Колас, 2015. – 288 с., [8] л. іл.**

Асновай зборніка сталі матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай адлюстраванню падзеяў восені 1939 г. у вуснай гісторыі, а таксама ў даследаваннях апошняга часу, заснаваных на архіўных крыніцах. Падрыхтаваныя даследчыкамі тэксты прапануюць яшчэ раз задумацца пра значэнне падзеяў 75-гадовай даўніны для гістарычнага лёсу Беларусі і яе народаў. Асобны раздзел зборніка прапануе асэнсаванне вуснай гісторыі як адметнага кірунку гуманістычных даследаванняў.




**Трафімчык Анатоль. Мой літпрацэс: зборнік рэцэнзій, эсэ, гутарак. – Мінск: Ковчег, 2015. – 266 с.**

Перад вамі зборнік літаратурна-мастацкай крытыкі бягучага літаратурнага працэсу на Беларусі. Большасць працаў была апублікавана ў перыёдыках. Цяпер яны сабраны пад адной вокладкай. Аўтар звяртае ўвагу на некаторыя – перажытыя і асэнсаваныя ім непасрэдна – з’явы ў развіцці беларускага прыгожага пісьменства. Менавіта «працэджванне» тых з’яваў праз сябе дало падставу назваць літпрацэс сваім (як называюць класікаў, напрыклад, мой Колас, мой Пушкін, мой Міцкевіч). З гэтай прычыны ў аналізе прысутнічае пэўная доля суб’ектыўнасці. Разам з тым аўтар як прафесійны чытач стараецца вытрымаць і справядлівасць у ацэнках. Стыль – месцамі хуліганскі, месцамі акадэмічны, дзе залішне нават гарэзлівы, дзе жыццёва сур’ёзны – зробіць чытанне дынамічным, без аднастайнасці і суму. Надаецца ўвага выданням і творчасці самага шырокага кола самых разнастайных аўтараў: Алеся Гаруна, Пятра Сеўрука, Уладзіміра Жылкі, Сяргея Пясецкага, Янкі Брыля, Рыгора Барадуліна, Васіля Гадулькі, Віктара Гардзея, Аляксея Белага, Янкі Лайкова, Віктара Шніпа, Уладзіміра Гніламёдава, Сяргея Кавалёва, Зінаіды Дудзюк, Аксаны Данільчык, Розы Шэрай, Таццяны Барысюк, Ягора Конева, Міколы Захаранкі, Анатоля Кудласевіча, Валерыя Гапеева, Сержука Вітушкі...




**Арлоў Уладзімер. Імёны Свабоды. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – 3-е выд., дап. – Радыё Свабодная Эўропа/ Радыё Свабода, 2015. – 668 с.: іл.**

«Імёны Свабоды» – гэта 300 гістарычных партрэтаў герояў беларускай свабоды XVIII–XXI стагоддзяў. Кніга можа служыць дапаможнікам для напісання раманаў, здымання фільмаў, абароны дысертацыяў, змены назваў вуліцаў, плошчаў і гарадоў.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:
**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademkniga@tut.by, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43
**«Кніжны салон»,** г. Мінск, вул. Калініна, 5; e-mail: stival.salon@gmail.com, тэл.: +375 17 385 60 89
А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, ebooks.prestigioplaza.com і e-kniga.by

# Знаходкі распавядаюць...

**Плавінскі Мікалай. Скарбы, курганы, замкі і іх даследчыкі. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 134 с.: іл.**

Новая кніга вядомага археолага і гісторыка Мікалая Плавінскага, выдадзеная дзякуючы кампаніі «Будзьма беларусамі», утрымлівае краязнаўчыя нарысы, прысвечаныя найбольш цікавым знаходкам скарбаў і археалагічным помнікам, праілюстраваныя шматлікімі фотаздымкамі, малюнкамі і рэканструкцыямі.

Першыя тры нарысы распавядаюць пра Брылёўскі і Гараўлянскі скарбы і «пояс Вітаўта», знойдзены ў скарбе з-пад вёскі Літва, гісторыю іх адкрыцця і выяўленыя падчас раскопак знаходкі, а таксама іх даследчыкаў.

Далей яшчэ больш цікавага. «Таямніцы сівых курганоў» апавядаюць, як і дзеля чаго ствараліся курганы. Пра гісторыю Браслава, яго велічную Замкавую гару і пра што сведчаць выяўленыя там знаходкі, гаворыцца ў нарысе «Горад Брачыслава». «Замак каралевы Боны» – пра гісторыю даследавання Мядзельскага замка і яго вынікі.

Два нарысы: «Язэп Драздовіч і мінская брама» і «Дзе знаходзіўся Трывеж?» знаёмяць чытача з малавядомымі фактамі дзейнасці Я. Драздовіча на ніве беларускай археалогіі. Нарыс з загадкавай назвай «Сярэднявечныя “фотаздымкі”» прысвечаны праблеме рэканструкцыі знешняга выгляду нашых продкаў, іх вопраткі, узбраення і прадметаў побыту.

У артыкуле «Адвечныя першапраходцы» аўтар распавядае пра прафесію археолага, якая моцна адрозніваецца ад вобраза, вядомага па фільмах пра рамантычных шукальнікаў скарбаў. Насамрэч археалагічныя разведкі і раскопкі – праца аднастайная і манатонная. Падчас раскопак, што могуць доўжыцца месяцамі і гадамі, марудна і скрупулёзна вывучаюцца культурныя адклады і фіксуюцца размешчаныя ў ім аб’екты і артэфакты, знаходкі мыюцца і падпісваюцца, а потым у «кабінетных» умовах кожная знаходка (а іх можа быць і дзясяткі тысячаў) замалёўваецца, фатаграфуецца і дэталёва апісваецца. А прыцягвае людзей у такой працы




– «магчымасць зазірнуць у мінулае, дакрануцца да рэчаў, якімі карысталіся нашыя далёкія прашчуры сотні і нават тысячы гадоў таму, адчуць цеплыню іх рук, увасобленую ў гліняным гаршку ці бронзавым пярсцёнку, і такім незвычайным чынам наладзіць з імі размову, каб паспрабаваць зразумець, пра што яны думалі і што адчувалі».

Кніга напісана папулярна і будзе карыснай найперш вучням і настаўнікам, краязнаўцам і ўсім, хто цікавіцца гісторыяй і культурай Беларусі.

**А.С.**

■ АЎТОГРАФ

# «Паэзія – нешта ўсё ж загадкавае...»

*(Пачатак на стар. 1)*

– Так, у пэўным сэнсе таямніца. Бо яна (паэзія) сапраўды не толькі адзін з відаў мастацтва слова, але яшчэ нешта ўсё ж загадкавае, – як пачуццё, як душа, як свядомасць, як памяць, як пошук ісціны. Пра гэта, дарэчы, задумваўся, пісаў у некаторых сваіх вершах («Высокае неба ідэала», «Зноў шлак халодны», «Вершы мае – пісьмы» і інш.). Ва ўсякім выпадку пагаджуся з меркаваннем, што сэнс паэзіі той жа, што ў самім жыцці: калі ў жыцці ёсць сэнс, то ён ёсць і ў паэзіі. Наконт гэтых самых «адкрыццяў». Калі мець на ўвазе, што паэзія – гэта, у перакладзе з грэцкай мовы, творчасць, тварэнне, то яна, па прызначэнні, кожным разам адкрывае нешта новае – новую тэму, новы зрэз старой (вечнай) тэмы, новыя сэнсы.

**– Вы часта наведваеце літаратурныя імпрэзы, красамоўна выступаеце. Што даюць Вам сустрэчы з чытачамі?**

– Што даюць, што значаць сустрэчы з чытачамі? У плане, так бы мовіць, жыццёвым-штодзённым – магчымасць падзяліцца напісаным табой і, пэўна, сваім досведам, творчым і чалавечым. Ну а ў маральна-псіхалагічным… Мне блізкая тэма сустрэчаў і прывяду ўласныя радкі:

Сустрэчы – не здарэнне:
Імкнуць да зарада зарад.
Іх ўзаемагарэнне –
Як навальнічны разрад.
Сустрэчы – не толькі збліжэнне.
Ідзе, скрозь шум і тлум,
Узаемапамнажэнне
Нашых душ і дум.

Альбо:
Усё сабрана, усё ўзята.
Бывайце, бывайце! Бывай,
наша свята –
Светлае свята сустрэчы
з людзьмі,
Свята даверу і любві!

**– Вашыя вершы вызначаюцца маральна-этычнай праблематыкай, філасофскай заглыбленасцю, думкамі пра лёс Радзімы. Якія тэмы, пачуцці хвалююць Вас цяпер, над якімі творамі Вы працуеце?**

– Якія тэмы хвалююць? Надзённыя, балючыя. Звязаныя з негатыўнымі з’явамі, з адчужэннем у нашых узаемаадносінах, у сучасным грамадстве, асабліва – з няпэўнасцю ў заўтрашнім дні, з лёсам нашай нацыянальнай дзяржаўнасці і роднай мовы.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Віктар Казько. Час збіраць косці. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 340 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 57).**

У новую кнігу лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа Віктара Казько ўвайшлі тры аповесці, у якіх аўтар запрашае чытачоў у падарожжа пакручастымі сцежкамі чалавечае памяці, дзе будзённасць перагукаецца з трывожным сном, поўным прарочых і сімвалічных праяваў, заклікае прыслухацца да глыбокіх філасофскіх, месцамі містычных, а ў выніку заўсёды аптымістычных і жыццесцвярджальных думак і разваг. Акрамя аповесці «Час збіраць косці», якая дала назву кнізе, у зборнік увайшлі творы «Прахожы», «І нікога, хто ўбачыць мой страх». Шукайце ў кнігарнях вашага горада!




**Ратуша: літаратурны альманах. Віцебск. 2014 / укл. А.П. Лазебная. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 178 с.**

Першы выпуск «Ратушы» падрыхтаваны Віцебскім абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў. Нагадаем, што кожны з беларускіх рэгіёнаў дзякуючы СБП мае сваё літаратурна-мастацкае выданне. Жанры, прадстаўленыя ў альманаху, – паэзія, проза, эсэ, творы для дзяцей, пераклады, гумарэскі, – паказваюць, наколькі актыўна развіваецца прыгожае гасьменства ў рэгіёне на сёння. У «Ратушу» ўвайшлі творы 37 аўтараў, руска- і беларускамоўных, якія прадстаўляюць розныя пакаленні. Ад маладзейшых – напрыклад, Наталля Гапеева, Алесь Замкоўскі, да старэйшых – Алесь Аркуш, Франц Сіўко. «Цвік» нумара – кароткая проза Германа Гесэ, перакладзеная на беларускую мову Арцёмам Арашонкам, і нямецкая паэзія з розных эпох у перастварэнні Уладзіміра Папковіча.




**Палац: літаратурны альманах. Гомель. №2, 2014 / укл. А. Бароўскі, Г. Лапацін. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 254 с.**

У зборніку апублікаваныя паэзія, проза, творы для дзяцей, краязнаўства і літаратуразнаўства. Звяртаецца ўвага і на гісторыю Гомеля, і на захаванне памяці творцаў і іх пісьменніцкай спадчыны, і на традыцыйную культуру беларусаў. У выданне ўвайшлі тэксты на беларускай і рускай мовах не меней як 37 аўтараў.

Як адзначае ў прадмове ўкладальнік альманаха «Палац», старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, «мы спадзяёмся, што беларускамоўны чытач знойдзе наш альманах і прачытае яго, адчуе подых нашага змагання і нашую веру, што мы пераможам... А мы крок за крокам будзем ісці далей, будзем рупіцца, каб падрыхтаваць новыя, і цяпер ужо заканчваем збіраць творы для трэцяга нумара «Палаца».

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 32
чэрвень, 2015
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 32 15.06.2015.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com